№4(28)
Люты 1999

# ПРАВА НА ВОЛЮ

Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна—96"



# БЕЛАРУСАЎ ПАЛІЧЫЛІ

У Беларусі, у першай з краінаў, што сталі незалежнымі ў 90-х гадах, з 16 па 23 лютага г.г. прайшоў перапіс насельніцтва. Астатнія дзяржавы, спасылаючыся на эканамічныя цяжкасьці, і лічачы, што да 2005 году яшчэ далёка, рабіць падлік сваіх грамадзянаў не сьпяшаюцца. Факт, што становішча ў беларускай эканоміцы ці не найгоршае сярод былых савецкіх рэспублік. Дык чаму ж тады нашыя ўлады пайшлі на немалыя грашовыя затраты менавіта цяпер?

Многае становіцца зразумелым пры ўважлівым знаёмстве з перапісным лістом. Ажно тры пытаньні ў ім прысьвечаныя адной тэме: мове. Першае — вашая родная мова, другое — на якой мове вы размаўляеце дома, трэцяе — якой яшчэ мовай вольна валодаеце...

Той, хто ведае моўную сітуацыю ў Беларусі, адразу зразумее, да чаго хочуць схіліць арганізатары перапісу грамадзянаў сваёй краіны. Беларуская мова вынішчалася ў Беларусі напрацягу як мінімум двух апошніх стагодзьдзяў. Пасьля кароткага рэнесансу, што надыйшоў па развале СССР, з прыходам да ўлады Лукашэнкі зноў пачалі зачыняцца беларускія школы і класы. Сёньня нават у сталіцы краіны менш за сем працэнтаў першакласьнікаў вывучаюць беларускую мову, і няма ніводнай сярэдняй і вышэйшай беларускамоўнай навучальнай установы... Дык можа за гэты час беларусы навучыліся рускай мове? Адназначна, не! Тую мову, на якой размаўляе большасьць насельніцтва краіны, сьпецыялісты-вучоныя назвалі "трасянкаю": сумесьсю рускай і беларускай моваў. Дзеля прыкладу варта прыслухацца, як гаворыць сам беларускі прэзідэнт.

Зразумела тады, што адказаўшы на першае пытаньне і назваўшы роднай мовай беларускую, шмат беларусаў задумаецца над другім пытаньнем і ўсьлед за прэзідэнтам назаве сваю "трасянку" рускай мовай. Калі ж і тут арганізатараў перапісу чакае "пракол", то на гэты выпадак было прыпасенае трэцяе пытаньне: "мова, якой вы вольна валодаеце" (заўважце, "мова", а ня "мовы"), і ўжо тут будзе названая руская... Такім чынам, вадзіца будзе ліцца на адзін млын...

Дададзім яшчэ, што перапісныя лісты, у парушэньне Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, Закона "Аб мовах", а значыць правоў грамадзянаў краіны, былі спачатку надрукаваныя выключна на рускай мове. І толькі пасьля пратэстаў грамадзкасьці частка іх была дадрукаваная па-беларуску.

Вось і атрымліваецца, што перапіс ператворыцца ў сваеасаблівы "рэферэндум": з дапамогай яго ўлады хочуць даказаць, што беларусы на сваёй роднай зямлі — меншасьць, і што саюз з Расіяй ніякая ня выдумка палітыкаў, а "гістарычная справядлівасьць"...

З парушэньнямі прайшоў і сам перапіс. Лічыльнікі бралі з сабою толькі рускамоўныя перапісныя лісты, беларускамоўныя трэба было прынцыпова запатрабаваць, падказвалі "правільны" адказ, калі чалавек задумваўся, а то і пісалі, не пытаючы, ва ўсіх трох графах: "рус...". У вайсковых частках камандзіры дыктавалі салдатам, якую мову лічыць роднай, а ў вёсках да старых людзей, часам, лічыльнікі і не прыходзілі зусім. Словам, усё рабілася, каб дабіцца патрэбнага ўладам, і найперш "інтэгратару", выніку.

Беларусы на гэта могуць адказаць толькі адно: колькі б вы нас ні налічылі, мы — ёсьць. І будзем! Незалежна ад вашых перапісаў...

**Андрэй НАЛІВА**

# ХРОНІКА

*11 лютага* ў Гомелі адразу пасьля заканчэньня рабочай сустрэчы старшыні ЦВК (Цэнтральнай Выбарчай камісіі) Віктара Ганчара з прадстаўнікамі мясцовых тэрытарыяльных камісій па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь былі затрыманыя міліцыяй удзельнікі сустрэчы Уладзімір Шыцікаў і Аляксандр Заранок. Затрыманьне праводзіла вялікая група міліцыянераў пад кіраўніцтвам намесьніка начальніка абласной міліцыі Салаўёва. У пастарунку ў затрыманых адабралі 760 плакатаў аб маючых адбыцца 16 траўня прэзідэнцкіх выбарах. Пасьля складаньня пратаколу іх адпусьцілі. Праз некалькі дзён да трох сутак адміністратыўнага арышту судом Цэнтральнага раёну г. Гомеля быў асуджаны калінкавічанін Аляксандр Заранок (60-гадовы сябра Сялянскай партыі). На судзе ў якасьці сьведкаў выступілі два міліцыянты. Аляксандра Заранка адвезьлі адбываць тэрмін у гомельскі ізалятар часовага ўтрыманьня. 20 лютага Аляксандр Заранок быў вызвалены. Яго сустракалі актывісты гомельскай філіі «Вясны-96».

*12 лютага* супрацоўнікі гомельскай міліцыі пад кіраўніцтвам намесьніка начальніка абласнога УУС палкоўніка Салаўёва і начальніка Цэнтральнага РАУС падпалкоўніка Смолікава без санкцыі пракурора абшукалі офіс Беларускага Хельсінкскага камітэту і канфіскавалі каля 14 тысяч плакатаў-абвестак аб маючых адбыцца 16 траўня выбарах прэзідэнта краіны. З прысутных у гэты час у офісе старшыні гомельскай філіі БХК Я.Мурашкі, магілёўца А.Фёдарава і беспрацоўнага гамяльчаніна Л.Удовенкі былі ўзятыя пісьмовыя тлумачэньні аб паходжаньні плакатаў. Вобыск супрацоўнікі міліцыі патлумачылі "пошукамі бомбы". Пацярпелыя падалі скаргу пракурору Цэнтральнага раёну г.Гомеля.

(Заканчэньне на стар.6-7)

# "Мы любім Беларусь! Мы любім Эўропу!"

У дзень Сьвятога Валянціна 14 лютага ў Мінску адбылося традыцыйнае маладзёжнае шэсьце «Беларусь у Еўропу», арганізаванае «Маладым Фронтам». Шэсьце пачалося ад мінскай плошчы Свабоды, адкуль моладзь накіравалася да Француская амбасады. Хоць на гэты раз гарадзкія ўлады дазволілі толькі мітынг каля Палацу спорту.


*14 лютага ў Мінску*

У акцыі прынялі ўдзел каля 500 маладых хлопцаў і дзяўчат, што як і летась, і пазалетась, планавалі абыйсьці амбасады краінаў Еўропы і ЗША у Мінску і перадаць зварот наступнага зьместу: «Мы, беларуская моладзь, зьвяртаемся да вас, як да прадстаўнікоў вольнага і дэмакратычнага сьвету. У гэты дзень, трымаючыся старадаўняй традыцыі дня сьв. Валянціна, калі моладзь ва ўсёй Еўропе гаворыць словы каханьня і любові, мы кажам: "Мы любім Беларусь! Мы любім Еўропу!" Беларуская моладзь выступае за незалежную еўрапейскую беларускую дзяржаву і патрабуе: "Беларусь у Еўропу!" Мы зьвяртаемся да ўрадаў вашых краінаў з просьбай аказаць ціск на рэжым Лукашэнкі ды на залежнае ад заходніх крэдытаў расійскае кіраўніцтва дзеля таго, каб: спыніць усе спробы анексіі Беларусі і ўзнаўленьня савецкай імперыі зла; спыніць распаўзаньне расійскага нацызму і славянафашызму; распачаць адкрыты і шчыры дыялог аб інтэграцыі Беларусі ў еўрапейскія структуры. Таксама ў гэты сьвяточны дзень мы заклікаем еўрапейскае грамадзтва заступіцца за беларускіх палітвязьняў: Аляксея Шыдлоўскага, Уладзіміра Плешчанку, Андрэя Клімава, Уладзіміра Кудзінава, якія пазбаўленыя любові сваіх сем'яў за апазіцыйную дзейнасьць».

На працягу ўсяго шэсьця маладых людзей суправаджалі шматлікія супрацоўнікі міліцыі ў форме і ў цывільным, а таксама прадстаўнікі сьпецслужбаў. Каля Літоўскай і Эстонскай амбасадаў моладзь наладзіла сьвяточны феерверк у гонар сьв. Валянціна. Адразу ж пасьля гэтага адзін з лідэраў «Маладога Фронту» Яўген Скочка, які ішоў у першых шэрагах, атрымаў ад супрацоўнікаў міліцыі позву на 21.30 таго ж дня — зьявіцца ў РАУС Цэнтральнага раёну. Падчас шэсьця, зноў жа "па традыцыі", нявядомымі асобамі ў цывільным было зьбіта і затрымана некалькі дзесяткаў чалавек. У грамадзкую прыёмную Праваабарончага Цэнтру «Вясна-96» зьвярнуўся непаўнагадовы Зьміцер Касьяровіч, які расказаў: «На скрыжаваньні пр.Скарыны і вул.Леніна мяне схапілі невядомыя асобы ў цывільным. Гэтыя людзі за рукі і ногі зацягнулі мяне ў Ленінскі РАУС». Хведар Жывалеўскі засьведчыў: «На скрыжаваньні вул.Янкі Купалы і пр. Скарыны я быў затрыманы невядомымі асобамі ў цывільным. Трое з іх зьбілі мяне ў машыне. Даведацца іхнія прозьвішчы было немагчыма».

У дзень сьвятога Валянціна ў Мінску затрымлівалі і прадстаўнікоў прэсы. У Праваабарончы Цэнтр «Вясна-96» зьвярнуўся карэспандэнт «Белорусской газеты» Сяргей Міхальчук, які паведаміў: "Я быў затрыманы каля рэстарацыі «Макдональдс», калі паспрабаваў пацікавіцца ў людзей у цывільным лёсам Алеся Піткевіча, якога я бачыў як схапілі і моцна зьбівалі нагамі.У Савецкім РАУСе мяне абшукалі, зьнялі на відэакамеру і пратрымалі каля 2 гадзінаў. Пры гэтым пратакол ня быў складзены".

Падчас шэсьця быў зьбіты і намеснік Праваабарончага Цэнтру «Вясна-96» Кірыла Базыкін.

Сярод затрыманых было шмат маладых людзей, у тым ліку і непаўнагадовых, якія не прымалі ўдзелу ў шэсьці, а трапілі ў рукі міліцыянераў і людзей у цывільным выпадкова. Паводле інфармацыі, якую мае Праваабарончы Цэнтр "Вясна-96", увечары 14 лютага былі затрыманыя: Уладзь Антонаў, Хведар Жывалеўскі, Марыя Куніна, Алесь Баршчэўскі, Арыя Гатальская, Яўген Скочка, Міхаіл Малашанка, Алесь Піткевіч, Зьміцер Касьяровіч , Андрэй Лях, Сяргей Прасяны, Сяргей Пашкевіч...

15 лютага ў судах Ленінскага, Цэнтральнага і Першамайскага раёнаў г.Мінска адбыліся суды над удзельнікамі шэсьця. У Цэнтральным судзе па арт 167. 1 КаАП РБ ("удзел у несанкцыянаваным шэсьці") былі асуджаныя — Алесь Піткевіч, Андрэй Лях, Сяргей Прасяны, Сяргей Пашкевіч. Яны атрымалі папярэджаньне. У Ленінскім судзе быў асуджаны Яўген Скочка (арт 167. 2 — "актыўны ўдзел у несанкцыянаваным шэсьці") — 10 сутак адміністратыўнага арышту. Удзельнік шэсьця Уладзь Антонаў быў асуджаны да 5 сутак адміністратыўнага арышту. У Першамайскім РАУСе былі асуджаныя Банэль Эльяш (1948 г.н) і Кучун Казімір (1953 г.н), якія спрабавалі бараніць моладзь. Іх асудзілі па арт. 156 ("дробнае хуліганства"), прысудзілі штрафы.

**Наш кар.**

# Рэжым баіцца вольнай прэсы

Напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў, якія абвешчаныя легітымным Вярхоўным Саветам Рэспублікі Беларусь згодна з Канстытуцыяй 1994-га году, рэжым Лукашэнкі жадае схаваць ад грамадзянаў Беларусі любую праўдзівую інфармацыю. 13 лютага Дзяржаўны камітэт па друку РБ вынес папярэджаньні адразу шасьці незалежным выданьням: газетам «Навіны», «Белорусская деловая газета», «Имя», «Народная воля», «Пагоня» і «Свободные новости». Паводле словаў кіраўніка Дзяржкамдруку Міхаіла Падгайнага, названыя выданьні парушылі адзін артыкул Закону аб друку і ажно два пункты Беларускай Канстытуцыі. Прэзідэнцкія чыноўнікі абвінавачваюць дэмакратычную прэсу ў «закліках да неканстытуцыйнага захопу ўлады». Падставай для папярэджаньняў стаў афіцыйны пісьмовы загад Міністэрства юстыцыі Рэспублікі Беларусь. А прычынай — публікацыя ў незалежнай прэсе дакументаў Цэнтральнай камісіі па выбарах прэзідэнта і абвестак аб маючых адбыцца выбарах.

Увогуле, менавіта боязьзю любой інфармацыі аб выбарах, што прызначаныя на 16 траўня, і прадыктаваны пачатак перасьледу прэсы. Дзяржкамдруку не спадабалася нават абвестка з датай выбараў па Канстытуцыі 1994 году, якую неўзабаве пасьля рашэньня Вярхоўнага Савету пачалі друкаваць незалежныя газеты. Згодна з тлумачэньнем сітуацыі супрацоўнікамі адзьдзелу рэгістрацыі Дзяржкамдруку, калі інфармацыя аб прэзідэнцкіх выбарах будзе друкавацца і далей, гэтае ведамства пачне «прыпыняць» выхад выданьняў без усялякіх судовых разьбіральніцтваў. Нельга выключаць, што частка незалежных газетаў у бліжэйшыя месяцы сапраўды будзе зачыненая ўладамі, бо ніводная з іх не спыніла друкаваць выбарчыя абвесткі. Што да новых дакументаў Цэнтрвыбаркама, то яны павінны зьявіцца хутка — напачатку сакавіка...

Яшчэ прасьцей працэдура ціску на прэсу выглядае ў рэгіёнах. Прыкладам, у Магілёўскай вобласьці чатыры мясцовыя газеты былі папярэджаныя аб адказнасьці ня ведамствам па друку, а абласным пракурорам Анатолем Дудкіным. Пракурор лічыць, што распаўсюджваньне газетамі «інфармацыі аб падрыхтоўцы да правядзеньня датэрміновых выбараў прэзідэнта» пацягне за сабою адміністратыўную і крымінальную адказнасьць. У «чорны» сьпіс Магілёўскай пракуратуры патрапілі «Магілёўская праўда», «Тыднёвік Магілёўскі», «Вячэрні Магілёў» і газета «Дэ факта». Цалкам рэальна, што ўжо хутка сьпіс папоўняць іншыя выданьні з усяе Беларусі. Падобна, улады спрабуюць спраўдзіць знакамітае: «Хто валодае інфармацыяй, той валодае ўсім».

**Яна ЖДАНОВІЧ**

# А судзьдзі — хто?

***18 лютага 1999 году судзьдзя Ленінскага раёну г.Бабруйску Сушкоў Юры Уладзіміравіч, прызначаны на гэтую пасаду загадам прэзідэнта Беларусі ад 20.10.1997 году, папрасіў палітычнага прытулку ў Германіі. Перад тым судзьдзя зрабіў беспрэцэдэнтную заяву з мэтай азнаёміць шырокую грамадзкасьць з фактамі, якія сьведчаць пра адсутнасьць незалежнай судовай улады ў Беларусі. Сустрэча журналістаў з Юрыям Сушковым адбылася ў Мінску ў офісе Праваабарончага Цэнтру «Вясна-96».***

Юры Сушкоў сьцьвярджае, што «страціў усялякую надзею на якую-небудзь справядлівасьць у Рэспубліцы Беларусь. Бо ў дзяржаве, якая лічыцца прававаой, адсутнічае прынцып падзяленьня уладаў. Адзін чалавек, цалкам парушаючы ўсю сістэму стрымліваньня і супрацьвагаў, авалодаў уладай. Вынікам некампетэнтнага кіраваньня дзяржавай стаўся ня толькі эканамічны, палітычны, але і прававы «беспредел» ва ўсіх галінах, структурах і падразьдзяленьнях улады, дзе квітнеюць п'янства, пратэкцыянізм і карупцыя».

Грамадзянін адчувае сябе ў небясьпецы, калі ягоная недатыкальнасьць парушаецца. Але грамадзянін можа быць пазбаўлены бясьпекі ў выніку злоўжываньня ўладаў.

Факты, якія Юры Сушкоў давёў да шырокай грамадзкасьці, — яшчэ адно сьведчаньне таго, што ў Беларусі адсутнічае незалежная судовая ўлада.

У 1996 годзе Юры Сушкоў скончыў Украінскую нацыянальную юрыдычную акадэмію і вярнуўся ў Беларусь, каб на практыцы выкарыстоўваць нормы і прынцыпы права. У хуткім часе Юры Сушкоў пераканаўся ў тым, што «прэзідэнт, які прызначыў мяне на пасаду, сам груба парушае ўсе агульначалавечыя прынцыпы, патрабуючы гэта і ад іншых, хто «працуе на яго». У 1991 годзе Беларусь набыла незалежнасьць, але ўсё, да чаго імкнуліся людзі, рухнула з прыходам да ўлады А.Лукашэнкі». Людзі страцілі надзею на дэмакратыю і свабоду.

«Няма слова, — казаў французкі філосаф-асьветнік Мантэск'е, — якое разумелася б у стольких разнастайных сэнсах, як свабода». Пры гэтым, спасылаючыся на «маскавітаў», Мантэск'е заўважае, што быў нават народ, які бачыў свабоду ў магчымасьці насіць доўгую бараду. Але той жа самы філосаф даў азначэньне палітычнай свабодзе. Палітычная свабода грамадзяніна — гэта спакой і ўпэўненасьць кожнага ў сваёй бясьпецы, якія забясьпечваюцца роўнасьцю перад законам. Гэта можа быць дасягнута толькі пры ўмове падзелу трох уладаў: заканадаўчай, выканаўчай і судовай. Толькі ў такім выпадку адна ўлада будзе стрымліваць другую ў межах закону, і толькі такім чынам можна не дапусьціць злоўжываньняў. Каб нельга было злоўжываць уладаю, трэба, каб адна ўлада стрымлівала другую.

У Беларусі прынцып падзелу уладаў адсутнічае — вось асноўная выснова, якую робіць судзьдзя Юры Сушкоў. Судовая ўлада не зьяўляецца самастойнай. Гэтую выснову Юрый Сушкоў выводзіць з уласнай судовай практыкі: «У 1998 годзе мне давялося разглядаць крымінальную справу ў адносінах супрацоўнікаў Бабруйскай мытні Патарыкіна і Дразда за зьдзейсьненыя службовыя наўмысныя злачынствы, зьвязаныя з гідролізным заводам. Папярэднім расьследваньнем гэтай справы займалася сьледчая група ў складзе супрацоўнікаў пракуратуры, КДБ, МУС. Узначальваў групу былы сяржант міліцыі патрульна-паставой службы — сьледчы Магілёўскай аблпракуратуры Л.Палевіч. Пасьля вывучэньня дадзенай крымінальнай справы ў суда ўзьніклі абгрунтаваныя сумненьні ў даказанасьці віны падсудных. У ходзе судовага працэсу дадатковых доказаў не было знойдзена. Пракурор судовага паседжаньня выказаў сумніў у даказаннасьці вінаватасьці падсудных і абмеркаваў справу са сваімі калегамі. Аб магчымасьці апраўданьня падсудных даведаліся людзі з КДБ, якія ўвесь час кантралявалі ход сьледства. У адзін з дзён да мяне ў кабінет зайшоў прадстаўнічага выгляду мужчына гадоў каля пяцідзесяці, прадставіўся супрацоўнікам рэспубліканскага КДБ і пачаў гаварыць, што ў КДБ ёсьць інфармацыя пра магчымае апраўданьне падсудных. Пасьля ён папярэдзіў, што «у выпадку чаго» да мяне будуць прынятыя самыя жорсткія меры. Я засьмяяўся і сказаў штосьці жартоўнае адносна ўсяго гэтага, але ён сказаў, што гаворыць сур'ёзна.




Па ходу ўсяго працэсу да мяне неаднаразова падыходзіў Л.Палевіч і казаў, што справа знаходзіцца пад кантролем самога прэзідэнта, таму пакараньне павінна быць суровым. Таксама ён сказаў, што з «гэтай справай лепей ня зьвязвацца». У дзень пасьля візіту да мяне прадстаўніка КДБ я быў выкліканы да старшыні суда, які прапанаваў вынесьці суровы прысуд і ня зьвязвацца з КДБ, інакш суду будзе дрэнна, а мне тым больш...

Прысуд атрымаўся такі: Патарыкіну я даў два з паловай гады пазбаўленьня волі, Дразду — чатыры з паловай гады пазбаўленьня волі. Гэта пры тым, што Патарыкін заслугоўваў апраўдальнага прысуду.

Да мяне падыйшоў М. Семянюк, старшыня нашага суда і сказаў, што ў «вярхах» засталіся задаволеныя прысудам, нават пажартаваў: «Можа быць, давайце нашым супрацоўнікам выпісваць прэміі за ўсё гэта...»

У той момант я ня здолеў вынесьці прысуд у адпаведнасьці з законам і прававой сьвядомасьцю, таму лічу неабходным заявіць пра гэта ў праваабарончую арганізацыю, з мэтаю дабіцца адмены прысуду і перагляду справы ва ўмовах нагляду праваабарончых арганізацыяў. Пра ціск з боку КДБ я вымушаны быў паведаміць сваякам асуджаных, калегам, сябрам.

Асуджаныя падавалі касацыйную скаргу, іх справу разглядаў абласны суд. У мяне была надзея, што абласны суд — інстанцыя больш моцная, там маглі б вынесьці кардынальнае рашэньне. Але судзьдзя абласнога суда Рыгор Качалаў, які быў дакладчыкам па гэтай справе, пакінуў прысуд бяз зьменаў.

Пасьля, у прыватнай размове, ён гаварыў, што віна падсудных сапраўды недаказаная, «але няхай пасядзяць».

Што значыць «няхай пасядзяць»?

Як судзьдзя я скажу, што ў нас склалася такая антычалавечая практыка: калі чалавек знаходзіўся пад сьледствам і быў заключаны пад варту, то такога чалавека не апраўдваюць, знаходзяць хоць бы нейкую віну, каб абмежавацца хоць бы тым тэрмінам, які чалавек ужо адседзеў. Каб ня дай Бог чалавека не апраўдаць, каб ён ня змог падаць на дзяржаўных чыноўнікаў у суд і не адсудзіў з іх грошы. Быў такі прыклад, калі малады чалавек абвінавачваўся ў зьдзяйсьненьні наўмыснага забойства. Але з матэрыялаў справы вынікала тое, што забойства ён зьдзейсьніў у той момант, калі пацярпелы наносіў яму ўдары кастэтам. У падсуднага сапраўды былі ў наяўнасьці шматлікія цялесныя пашкоджаньні, і менавіта ў такім стане ён нанёс удар нажом і забіў чалавека. Аднак паколькі гэты чалавек ужо трапіў за краты, у судзе адразу пачалі думаць, як перайсьці на вынясеньне яму артыкулу аб «перавышэньні меры неабходнай абароны» альбо «забойства ў стане моцнага душэўнага хваляваньня» ня толькі дзеля таго,каб не даваць яму тэрмін за забойства, але і каб апраўдаць ягонае знаходжаньне пад вартай. Таму апраўдальных прысудаў у нас практычна няма.

*(Працяг на стар. 4-5)*

# Фашызм падымае галаву

## "Неанацы" на беларускай зямлі маюць адкрытую падтрымку ўладаў

«Неба патрабуе ахвяраў. Полымя пажару з кожным днём усё ярчэйшае. Глядзіце, як уваскрасае з попелу бязгрэшны народ, які ня ведае пачуцьця віны. З гэтага моманту Гісторыя — тое, што гучыць па-руску, і першае слова яе — гэта слова «сякера». Нож, што ўскрывае вены, — шлях да ўратаваньня. У крывавых плынях — адкрыцьцё Апантанага каханьня. Сьмерць — танны кошт за ісьціну, калі страчаная вера. Сьвет прыме ачышчэньне ад цьвілі. Адвечнасьць знаходзіць новае вымярэньне. Вусны Хрыста цалуюць сталь рускіх мячоў...»

Ня могуць не закрануць нейкія кропкі падсьвядомасьці гэтыя радкі — магічныя для тых, чый натхнёны дух прагне "высокіх" пачуцьцяў, велічных ідэалаў, звонкага поклічу. Аднойчы — гэта было больш за паўвека таму — цэлая краіна захапілася радкамі кшталту гэтых. І тады да ўлады ў гэтай краіне прыйшоў чалавек, якога звалі Адольф Шыкльгрубер.

Наўрад ці хлопцы з Мінскай філіі Рускага Нацыянальнага Адзінства абцяжарваюць сябе роздумам над сатанінскім зьместам гэтых «белых вершаў» — хаця «Азбуку рускага нацыяналіста», брашурку Аляксандра Баркашова, амаль усе яны ведаюць напамяць. Таму з імі нецікава размаўляць, бо ўласна сваіх думак ад іх дачакацца цяжка. Хаця менавіта сёньня прадстаўнікі РНА гатовыя размаўляць з прэсай любых накірункаў, яны нават дазволілі шэрагу журналістаў наведаць офіс, дзе месьціцца штаб РНА (няцяжка здагадацца, што праз некалькі тыдняў ён будзе, хутчэй за ўсё, дыслакавацца ў іншым месцы). РНА парушыла «закон маўчаньня» і ўголас загаварыла — у першую чаргу аб тым, што вакол РНА ўздзецца вялікая палітычная гульня. Загадзя спланаванай правакацыяй лічыць камандзір РНА у Мінску Глеб Самойлаў (цалкам магчыма, што гэты 21-гадовы юнак зьяўляецца толькі падстаўной асобай, і за ягонай сьпіной хаваюцца «прафесіяналы» ад шавінізму) нядаўні інцыдэнт, калі сябры РНА зьбілі прадстаўнікоў "Хартыі-97". «Мы праводзілі планавае агітацыйна-прапагандысцкае мерапрыемства, — кажа спадар Самойлаў, — падобнае да тых, якія мы штодня праводзім у розных канцах гораду, напрыклад, на станцыях метро. Нас зьдзівіла рэакцыя і прэсы, і «пацярпелых». Мы лічым, што гэта новы віток барацьбы з намі, барацьбы рукамі пракуратуры, МУС, уладаў, хаця ў нас з імі заўсёды былі цёплыя адносіны.

А наконт "канфлікту" на праспекце — мы ня ведаем, хто, як і каго зьбіваў, і якія такія малойчыкі маглі зламаць Саньнікаву рэбры»...

Не зьдзіўляе той факт, што кіраўнік РНА абураецца «няветлівасьцю», з якой людзі паставіліся да хлапцоў у злавеснай чорнай форме з выявай свастыкі на значках, рукавах, бярэтках. Інакш ня можа і быць у краіне, дзе па дзяржаўным тэлебачаньні даецца афіцыйны каментар у абарону «рускіх хлопчыкаў», а тыя, хто паспрабаваў спыніць вар`яцтва, што адбывалася на плошчы Перамогі (Перамогі над фашызмам, варта адзначыць), прадстаўляюцца ў прапрэзідэнцкіх сродках масавай інфармацыі як людзі, злачынныя па сваёй прыродзе. Ня дзіўна і тое, што сам спадар Самойлаў з захапленьнем распавядае пра «мужную пазіцыю сьледчых», якія вымушаныя весьці крымінальную справу па факту бойкі; больш таго, Глеб Самойлаў спасылаецца на людзей, якія, як быццам бы, далі кіраўніцтву РНА пэўныя гарантыі. Людзі гэтыя, па словах шараговых прадстаўнікоў РНА, — Алег Бажэлка (міністр юстыцыі РБ) і Сяргей Посахаў (былы памочнік прэзідэнта Беларусі, цяпер ягоны прадстаўнік у кіраўніцтве СНД).

Камандзір РНА не хавае таго, што сёньня пэўныя прадстаўнікі ўладаў зрабілі стаўку на «неанацы» у чорных кашулях: «Нашая агітацыя ў значнай ступені скіраваная на супрацоўнікаў міліцыі, іншых сілавых структураў, мы разглядаем іх як сваіх патэнцыяльных прыхільнікаў. Мы ня можам пакуль што афішаваць сяброўства ў РНА усіх сваіх прыхільнікаў, асабліва тых, хто займае высокія пасады. Выкарыстоўваючы сваё службовае становішча, яны аказваюць нам дапамогу, не зьяўляючыся фармальна сябрамі РНА».

Пры выпадку спадар Самойлаў падкрэсьлівае лагоднае стаўленьне РНА да прэзідэнта Лукашэнкі. Прэзідэнт, здаецца, не зьбіраецца РНА «аддаваць на закланьне». Ды гэта з ягонага боку было б проста невысакародна, бо падчас передвыбарчай кампаніі тады яшчэ дэпутата Лукашэнкі менавіта хлопцы з РНА (тады арганізацыя рабіла першыя крокі) ажыцьцяўлялі ахову будучага прэзідэнта і дабрасумленна несьлі варту ля кабінета тагачаснага першага сакратара ЦК ЛКСМБ Аляксандра Фядуты, за дзьверыма якога распрацоўваліся дэталі прадвыбарчага шоу.

Тады РНА у Мінску налічвала ня болей за дзесятак чалавек. Кіраваў імі былы выхаванец вайсковае вучэльні Андрэй Валіулін, якога неміласэрны лёс закінуў у Беларусь і ня даў магчымасьці знайсьці трывалы заробак. (Забягаючы наперад, зазначым, што спадар Валіулін быў вымушаны разьвітацца з пасадай кіраўніка РНА пасьля таго, як пры загадкавых абставінах зьнікла «партыйная каса» РНА, а са-

# А судзьдзі — хто?

*(Пачатак на стар. 3)*

Мне асабіста за год працы ўдалося вынесьці тры апраўдальныя прысуды, пасьля вынясеньня якіх мяне аблівалі брудам.

Судзьдзя абласнога суда Рыгор Качалаў неяк заявіў мне, што можа лёгка мяне зьнішчыць, калі я ня буду выносіць рашэньньні «як таго патрабуе час». Ягонае пытаньне: «А калі табе рукі пакладуць пад нож?» Я адказаў, што ў такім стане чалавека можна прымусіць зрабіць усё, што пажадаеш.

Гэтая практыка зыходзіць з бальшавіцкіх часоў, калі КДБ валодаў неабмежаванай уладай, калі яго баяліся. Судзьдзі падпарадкоўваюцца міліцыі і КДБ, выносяць патрэбныя ім рашэньні. Людзей арыштоўваюць з мэтай далейшай аператыўнай распрацоўкі, чым груба парушаюць усе прынцыпы права, Канстытуцыі і асноўныя правы чалавека.

Такія адносіны да людзей магчымыя толькі ва ўмовах таталітарнага рэжыму. Дастаткова сказаць, што гэтай справай цікавіцца прэзідэнт — і вынік, зыход справы запраграмаваны.

Наконт таго, як у нас дабываюцца доказы: калі пачынаецца нейкая крымінальная справа, то з чалавека паказаньні могуць проста «выбіць». Чалавек можа агаварыць сябе і сказаць супраць сябе нават тое, што ён не зьдзяйсьняў.

Дакладна вядома, што «нашымі» сьпецслужбамі і міліцыяй з мэтаю раскрыцьця злачынстваў выкарыстоўваюцца «дзедаўскія» метады: падвешваньне на кратах на кайданках і зьбіцьцё, катаваньне голадам і начнымі допытамі, пагрозай расправы і надзяваньнем супрацьгазу з перацісканьнем дыхальнай трубкі, вышчыпваньне валасоў каля палавых органаў, прыпальваньнем скуры.

Такія метады выкарыстоўваюцца паўсюдна, бо зьяўляюцца простымі і таннымі, што для нашай дзяржавы вельмі выгодна.

Часьцей за ўсё б'юць так, каб не заставалася сьлядоў. Я з аператыўнікамі часта кантактую, у свой час я працаваў у пракуратуры на сьледстве, таму ў мяне шмат знаёмых сярод аператыўнікаў. Сьледчыя, як правіла, ня б'юць. Б'юць аператыўныя супрацоўнікі. Іх работа — «выбіць паказаньні». Быў у нас у Бабруйску



*Мінскія неафашысты. Першы справа — Глеб Самойлаў.*

мога Валіуліна пачала «турбаваць» міліцыя, дарэмна імкнучыся спагнаць з яго аліменты. Гісторыя з «касай» так і засталася цьмянай, а ў РНА, у выніку, зьявіўся юны камандзір, відавочна, больш высакамаральны).

...Сваё ўзьдзеяньне на грамадзтва РНА вырашыла распачаць з міліцыі. І, варта адзначыць, больш чым пасьпяхова. У Першамайскім РАУСе сталіцы дайшло да таго, што па вечарах хлопцы з РНА у форме і з нацысцкай атрыбутыкай выходзілі разам з супрацоўнікамі міліцыі патруляваць вуліцы гораду. І жыхары, бачачы, што людзі са свастыкай прагульваюцца разам з міліцыянтамі, палічылі, відавочна, што гэта сапраўды нейкая добрая зьява — бо цяжка ж уявіць, што ў напаўзьнішчанай фашыстамі падчас вайны Беларусі праз пяцьдзесят гадоў «нацы» і міліцыянты будуць побач крочыць па вечаровых вуліцах...

Апошнім часам "неанацы" сьвядома пачалі паводзіць сябе больш актыўна. «Мы маем намер падаць у Мінюст дакументы на рэгістрацыю Рэспубліканскага грамадзкага аб'яднаньня Рускае Нацыянальнае Адзінства, — кажа Глеб Самойлаў. — Калі нам дазволіць закон, мы зарэгіструемся як філіял РНА, які падпарадкоўваецца разьмешчанаму ў Маскве Галоўнаму штабу, калі не — як Рэспубліканскае грамадзкае аб`яднаньне Рускае Нацыянальнае Адзінства. Але ў любым выпадку захаваем падпарадкаваньне Маскве, таму што ў нашай, як і ў любых іншых рэгіянальных арганізацыях, дзейнічае жорсткая дысцыпліна і дакладная іерархія».

Недахопу ў друкаванай прадукцыі РНА не адчувае. Па словах спадара Самойлава, за мінулы месяц у Мінску «аселі» 10 тысячаў асобнікаў газеты «Русский порядок» (у кожным яе нумары абавязкова прысутнічае інтэрв`ю самога лідэра нацы — Баркашова, шмат вершаў ультрапатрыятычнага характару і рапартаў аб дзейнасьці рэгіянальных філіяў РНА. Дарэчы, апрача Мінску, яны найбольш магутныя ў Стаўрапалі і ў Варонежы — не кажучы, вядома, пра Маскву, дзе ва «уласнасьці» РНА знаходзіцца Цярлецкі парк, які мэр Лужкоў марна імкнецца «пазбавіць ад фашысцкай гадзіны»). Частка гэтай прадукцыі вырабляецца непасрэдна ў Беларусі, у старанна закансьпіраванай друкарні. Ня менш старанна ахоўваюць хлопцы і таямніцу месцазнаходжаньня сваіх летнікаў, ціраў і г.д. — хаця з міліцыяй, як кажа Самойлаў, у іх і "no problem", усё роўна сярод прадстаўнікоў праваахоўчых органаў знаходзяцца "нядобрасумленныя" людзі, якія затрымліваюць абаронцаў рускай годнасьці, як гэта здарылася днямі ля філармоніі, дзе было затрымана 14 юнакоў у форме РНА.

Асабіста для сябе і для сваіх сяброў камандзір Самойлаў акрэсьлівае бліжэйшыя палітычныя мэты такім чынам: «Барацьба за розумы, зьмяненьне сьветапогляду людзей, — вось наша задача,бо без зьмяненьня ідэалогіі грамадзтва нельга гаварыць пра нейкія глабальныя перамены ва ўсім жыцьці. Па-другое, мы клапоцімся пра фізічную загартоўку нашых байцоў — бо арганізацыя, якая ставіць перад сабой мэты, падобныя да нашых, і ня мае жорсткай дысцыпліны, выглядае ідыятычнай». Адназначна акрэсьлівае РНА і сваіх ворагаў: "Расіяй кіруюць людзі ня рускія па духу і крыві, яны дзейнічаюць у інтарэсах Захаду і яўрэйскіх банкіраў".

Ня трэба зьдзіўляцца на тое, што кіраўнік беларускай філіі РНА гаворыць выключна пра рускі народ, рускую нацыю. Ідэалогія РНА будуецца менавіта на тым, што руская нацыя складаецца з трохадзінства рускага, беларускага і ўкраінскага народаў, а, значыць, усе беларусы і ўкраінцы — рускія, якія пакуль пра гэта ня ведаюць.

Сёньня беларуская філія РНА, па словах яе кіраўніка, налічвае болей за тысячу чалавек. Падзяляецца арганізацыя на ваенізаваную і аналітычна-прапагандысцкую часткі. Прадстаўнікі РНА называюць сябе законапаслухмянымі грамадзянамі, і на тое, што стварэньне ваенізаванай структуры зьяўляецца вельмі сур'ёзным парушэньнем закону, яны ўвагі не зьвяртаюць.

**Алесь ЛЯЛЕКА**

***P.S.*** Прымаючы ад фотакарэспандэнта Юрася Рудэнкі здымак, які ён зрабіў у штаб-кватэры РНА, мы зьдзівіліся з той нагоды, што шыхт РНА быў зьняты ў кватэры, а ня, скажам, дзенебудзь у горадзе ці хаця б у двары. Але Юрась патлумачыў, што хлопцы вырашылі не напружваць аднасінаў з участковым. Што ж, і тое добра, што хоць участковага баяцца...

---

такі сьледчы Валеры Глушко, ён — майстар спорту і часта выкарыстоўваў катаваньні. Людзі скардзіліся ў пракуратуру, але пракуратура з ім нічога зрабіць таксама не магла. Ён і на краты ў кайданках падвешваў, біў і дубінкаю, і рукамі — усімі метадамі, якія толькі яго прымітыўны мозг мог прыдумаць. Цяпер ён працуе намесьнікам начальніка Бабруйскага АМАПу».

Факты адступнасьці незалежнай судовай улады, прыведзеныя Ю.Сушковым, замацаваныя недасканалым беларускім заканадаўствам. Згодна з законам аб судаўладкаваньні ад 13.01.95 году з унесенымі ў 1996 і 1998 гадах зьменамі, суды Рэспублікі Беларусь ствараюцца на падставе выбарнасьці альбо прызначэньні судзьдзяў. Судзьдзі абласных, Мінскага гарадзкога, раённых (гарадзкіх), вайсковых судоў, гаспадарчых судоў абласьцей, гаспадарчых судоў гарадоў і раёнаў і сьпецыялізаваных судоў прызначаюцца прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь. У адпаведнасьці з незаконнымі зьменамі ў Канстытуцыі, зробленымі ў 1996 г., стварылася сітуацыя, што са згоды Савету Рэспублікі прэзідэнт прызначае на пасады судзьдзяў Вярхоўнага Суда, Вышэйшага Гаспадарчага Суда. Прэзідэнт мае права прызначаць шэсьць судзьдзяў Канстытуцыйнага Суда, вызваляць з пасады старшыню і судзьдзяў Канстытуцыйнага Суда, старшыню і судзьдзяў Вярхоўнага Суда, старшыню і судзьдзяў Вышэйшага Гаспадарчага Суда. Судзьдзі сярэдняга і ніжэйшага зьвеньняў судовай сістэмы РБ вызваляюцца з пасады па рашэньні органа, які прызначыў яго на пасаду.

Юры Сушкоў гаворыць: «Судзьдзі маюць ільготы, прадугледжаныя Законам аб статусе судзьдзяў — 20-ці гадовы стаж работы, каб пайсьці на пенсію, недатыкальнасьць асобы (ніхто ня мае права судзьдзю спыніць і абшукаць, але і тут узьнікаюць праблемы), зарплата раённага судзьдзі ў межах 10 млн. бел. рублёў (прыкладна 40 даляраў ЗША)». У такіх умовах судзьдзі адчуваюць сябе залежнымі ад структураў выканаўчай улады і сьпецслужбаў.

**Ад рэдакцыі:** У гэтым артыкуле скарыстаныя матэрыялы прэс-канферэнцыі, якую Юры Сушкоў даў 18 лютага 1999 г. і фрагменты яго заявы, накіраванай у прадстаўніцтва АБСЕ у Беларусі, праваабарончыя арганізацыі і вышэйшыя судовыя інстанцыі Рэспублікі Беларусь. Гэта ня першая спроба Юрыя Сушкова зьвярнуць увагу грамадзкасьці на стан беларускага правасудзьдзя. У Маскве ў Юрыя быў сябра журналіст, родам з Бабруйску, які прапанаваў яму сабраць матэрыял для артыкулу, а ў перспектыве — для кнігі. Але справа гэтая скончылася тым, што журналіста ў Маскве забілі і прывезьлі ў родны Бабруйск у труне. Забойства журналіста не было раскрытым. Але Юры Сушкоў не адмовіўся ад ідэі напісаньня кнігі пра беларускае правасудзьдзе, ён плануе рабіць гэта ў Германіі.

**Паліна СЬЦЕПАНЕНКА**

*(Працяг будзе)*

# Падзеі Факты Каментары

(Пачатак на стар. 1)

*14 лютага* адбыўся маладзёжны мітынг-шэсьце «Беларусь у Еўропу», арганізаваны «Маладым Фронтам». У акцыі прымалі ўдзел каля 500 хлопцаў і дзяўчат. На працягу ўсяго шэсьця маладых людзей суправаджалі супрацоўнікі міліцыі ў форме і ў цывільным, а таксама прадстаўнікі сьпецслужбаў. Падчас шэсьця быў зьбіты назіральнік Праваабарончага Цэнтру «Вясна-96» Кірыла Базыкін. Увечары 14 лютага былі затрыманыя: Уладзь Антонаў, Жывалеўскі Хведар, Куніна Марыя, Баршчэўскі Алесь, Арыя Гатальская, Яўген Скочка, Міхаіл Малашанка, Піткевіч Алесь, Касьяровіч Зьміцер, Андрэй Лях, Сяргей Прасяны, Сяргей Пашкевіч. Сярод затрыманых шмат непаўналетніх.

*У ноч з 14 на 15 лютага* на Брэсцкай мытні пры аглядзе рэчаў супрацоўніцы Праваабарончага Цэнтру «Вясна-96» Тацяны Равяка мытнікі зьвярнулі ўвагу на праваабарончую літаратуру (Агляд па правах чалавека ў Беларусі, падрыхтаваны «Вясной-96», бюлетэнь «Права на волю» і інш.). Апрача таго, у Т.Равяка была дыскета з яе асабістымі запісамі. Быў выкліканы эксперт па літаратуры. У выніку ўся інфармацыя з дыскеты была сьцертая.

*15 лютага* ў судах Ленінскага, Цэнтральнага і Першамайскага раёнаў г.Мінска адбыліся суды над удзельнікамі шэсьця «Беларусь у Еўропу». У Цэнтральным судзе Алесь Піткевіч, Андрэй Лях, Сяргей Прасяны, Сяргей Пашкевіч атрымалі папярэджаньні. У Ленінскім судзе Скочка Я. быў асуджаны да 10 сутак адміністратыўнага арышту. Удзельніку шэсьця Уладзю Антонаву прысуджана 5 сутак адміністратыўнага арышту. У Першамайскім РАУСе былі асуджаныя Банэль Эльяш (1948 г.н) і Кучун Казімір (1953 г.н), якія спрабавалі бараніць моладзь. Іх асудзілі па арт. 156 (дробнае хуліганства) і прысудзілі штрафы.

*У лютым* — КДБ Беларусі папярэдзіў старшыню Цэнтральнай выбарчай камісіі па выбарах прэзідэнта РБ Віктара Ганчара. У папярэджаньні гаворыцца: "Дзейнасьць Ганчара і членаў






Мінск, 11 лютага 1999 г.

Цэнтральнай выбарчай камісіі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь, якую ён узначальвае, супярэчыць дзейснаму заканадаўству, правакуе дэстабілізацыю грамадзка-палітычнага становішча ў рэспубліцы і можа прывесьці да зьдзяйсьненьня злачынства, прадугледжанага часткай 1 арт. 61-1 («змова з мэтай захопу дзяржаўнай улады) КК РБ. У сувязі з гэтым Ганчару В.І. вынесенае афіцыйнае папярэджаньне і патлумачана, што падобная дзейнасьць можа прывесьці да злачынства і пацягнуць за сабою крымінальную адказнасьць».

*У лютым* — Дзяржкамітэт па друку вынес папярэджаньні незалежным газетам, якія надрукавалі матэрыялы пра правядзеньне ў Беларусі чарговых прэзідэнцкіх выбараў, прызначаных Вярхоўным Саветам 13-га скліканьня на 16 траўня 1999 г. У папярэджаньнях сказана, што публікацыя дакументаў "неіснуючага дзяржоргана" парушае закон аб друку ў частцы: «заклік да захопу ўлады».

*18 лютага* ў офісе Праваабарончага Цэнтру «Вясна-96» адбылася прэс-канферэнцыя з судзьдзёй Ленінскага раёну г.Бабруйску Сушковым Юрыям Уладзіміравічам, які вырашыў азнаёміць шырокую грамадзкасьць з фактамі, якія сьведчаць пра адсутнасьць незалежнай судовай улады ў Беларусі. У гэты ж дзень судзьдзя Юры Сушкоў быў вымушаны папрасіць палітычнага прытулку ў Германіі.

*У лютым* — атрымаў палітычны прытулак у Чэхіі былы актывіст віцебскай Рады БНФ «Адраджэньне» Юры Мароз.

*18 лютага* ў Барысаўскім гарадзкім судзе адбыўся суд над актывістам Беларускага Хельсінкскага Камітэту, лідэрам гарадзкой арганізацыі Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі (Народная Грамада) Аляксандрам Абрамовічам. Прысуд — 10 сутак адміністратыўнага арышту на падставе КаАП арт. 167 ч.2. (несанкцыянаваны пікет). На судзе Аляксандр Абрамовіч не прызнаў сябе вінаватым. Аляксандра Абрамовіча асудзілі за арганізацыю 23 студзеня пікету на цэнтральнай плошчы гораду. Заяўка на правядзеньне мерапрыемства была пададзеная сваечасова 5 студзеня, але Барысаўскі гарвыканкам ня даў дазволу на правядзеньне пікету.

*21 лютага* сябра Брэсцкай філіі «Вясны-96» Уладзімір Вялічкін быў затрыманы на гарадзкім рэчавым рынку сяржантам міліцыі Баравіком. Прычынай затрыманьня стала спроба Вялічкіна правесьці на рынку пікет. На ўсе пададзеныя заяўкі аб правядзеньні пікету, накіраванага супраць інкарпарацыі Беларусі ў склад Расіі, Брэсцкі гарвыканкам даў адмову, матывуючы яе пастановай №887 ад 15. 10.1998 году. Згодна з гэтай пастановай адзіным месцам правядзеньня пікетаў можа быць стадыён «Будаўнік». Нягледзячы на забарону, У.Вялічкін выйшаў на рынак з плакатамі: «16 траўня — выбары прэзідэнта» і «Не —саюзу!». Разам з У.Вялічкіным быў затрыманы выпадковы прахожы Алесь Ахмач, вучань СШ №23 г.Брэста. Яны былі дастаўленыя ў Маскоўскі РАУС г. Брэста, дзе ст.лейтэнант міліцыі Левановіч склаў пратаколы затрыманьня.

*22 лютага* ў Гомелі тры чалавекі былі асуджаныя да адміністратыўнага арышту. У гэты дзень судзьдзя Цэнтральнага райсуда горада разгледзела дзьве адміністратыўныя справы. Па першай праходзіў сябра БНФ Уладзімір Шыцікаў, які 11 лютага быў затрыманы пасьля рабочай сустрэчы з Віктарам Ганчаром са стосам плакатаў-аб'яваў аб выбарах прэзідэнта. Прысуд быў хуткім — трое сутак арышту. Па другой справе праходзілі два маладыя чалавекі — актывісты Свабоднага прафсаюзу вучнёўскай моладзі: Руслан Бяланаў і Павел Клімовіч, якія вечарам 19 лютага ішлі па вуліцы Савецкай са сцягамі Свабоднага прафсаюзу ў руках. Каля Цэнтральнага ўнівермага яны былі затрыманыя патрулём міліцыі. І ў гэтым выпадку прысуд быў стандартны для Гомеля — трое сутак адміністратыўнага арышту.

*23 лютага* вызвалены з-пад варты актывіст "Маладога Фронту" Аляксей Шыдлоўскі. 25 лютага ва Управе Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» адбылася ягоная прэс-канферэнцыя. Аляксей Шыдлоўскі быў арыштаваны ў жніўні 1997 году ў г.Стоўбцы за антыпрэзідэнцкія графіці. 24 лютага 1998 г. ён быў асуджаны на год і шэсьць месяцаў пазбаўленьня волі ў калоніі ўзмоцненага рэжыму. Да суда Аляксей Шыдлоўскі шэсьць месяцаў правёў у мінскім сьледчым ізалятары. Такім чынам, ён павінен быў выйсьці на волю 25 лютага. Менавіта на гэты дзень "Малады Фронт" планаваў сустрэчу свайго актывіста, але нечакана стала вядома, што Аляксей Шыдлоўскі ўключаны ў сьпіс амніставаных. Такім чынам, Аляксей Шыдлоўскі выйшаў на волю на два дні раней. Варта адзначыць, што па беларускіх законах асоба, якую амніставалі, на працягу 10 гадоў ня можа разьлічваць на паўторную амністыю. Зранку 25 лютага сябры "Маладога Фронту" правялі каля мінскай калоніі ўзмоцненага рэжыму УЖ 15/1 пікет супраць гвалтоўнага амніставаньня. У пікеце прымаў удзел і сам А. Шыдлоўскі.

*24 лютага* ў Мінску на плошчы Якуба Коласа адбыўся пікет, арганізаваны Праваабарончым Цэнтрам «Вясна-96». Пікет быў

прысьвечаны абароне правоў чалавека і, апрача таго, меў антыфашысцкую накіраванасьць.

*25 лютага* супраць актывіста "Маладога Фронту" Яўгена Скочкі ўзбуджаная крымінальная справа. У гэты дзень Яўген Скочка быў вызвалены са сьпецпрыёмніка, дзе адбываў адміністратыўны арышт (10 сутак) за ўдзел у маладзёжнай акцыі «Беларусь у Еўропу». Падчас знаходжаньня ў сьпецразьмеркавальніку Яўген Скочка 5 дзён трымаў сухую галадоўку. 20 лютага ён спыніў галадоўку. На ягонае рашэньне паўплывала загадчыца грамадзкай прыёмнай «Вясны -96» Любоў Лунёва, якая наведала сьпецразьмеркавальнік і перадала яму неабходныя для выхаду з галадоўкі прадукты. Варта адзначыць, што незадоўга да арышту Яўген Скочка ляжаў у шпіталі — у яго язва страўніка. Яўген Скочка сказаў, што 23 лютага супрацоўнікі сьпецразьмеркавальніка зьмясьцілі яго ў так званы «трамвай» — штрафны ізалятар, які ўяўляе сабой доўгі цёмны пакой з бетоннымі сьценамі і падлогай. У гэтым пакоі выбітае вакно, а падлога залітая вадой. Па словах Скочкі, гэтае пакараньне было зьвязанае з тым, што супрацоўнікі сьпецразьмеркавальніка сьвяткавалі 23 лютага — Дзень Савецкай Арміі і былі п'яныя. 25 лютага, адразу пасьля вызваленьня, Яўгена Скочку адвезьлі ў мінскую гарадзкую пракуратуру і правялі допыт. Яго абвінавачваюць у парушэньні арт. 186.3 Крымінальнага Кодэксу РБ — арганізацыя і ўдзел у групавых дзеяньнях, якія пацягнулі за сабой перашкоду працы траспарту і інш.

*25 лютага* ў Мінску былі затрыманыя сябры Цэнтральнай Выбарчай Камісіі па выбарах прэзідэнта Рэспублікі Беларусь. Затрыманьне адбылося зранку падчас паседжаньня па зацьвярджэньню сьпісаў тэрытарыяльных камісіяў, якое Цэнтрвыбаркам праводзіў у мінскім Доме афіцэраў. Фармальная падстава затрыманьня — правядзеньне незаконнага сходу, што прадугледжвае адміністратыўную адказнасьць па арт. 167.1 КаАП РБ. Усіх затрыманых даставілі ў ГАМ Ленінскага раёну г.Мінску. Сярод затрыманых старшыня ЦВК Віктар Ганчар, сакратар ЦВК Барыс Гюнтэр і ўсе сябры ЦВК. У другой палове дня пачаліся суды над затрыманымі ў тым жа памяшканьні адзьдзяленьня міліцыі, але члены ЦВК патрабавалі адвакатаў, таму суды былі перанесеныя на 1 сакавіка.

# «...Жадаю сабе пісаць чыстасардэчна»

**Што можа сказаць падлетак, дзіця малое, неразумнае пра правы чалавека? Магу запэўніць: намнога больш, чым асноўная частка беларусаў, для якіх словазлучэньне «правы чалавека» усё яшчэ часта стаіць у адным лагічным радзе, што і ЦРУ, імперыялізм, шпіён, правакацыя і інш. Так былі выхаваныя бацькі. Дзеці ўжо зусім іншыя.**

**Гэта паказаў конкурс школьнікаў 5-11 класаў краіны на веданьне Усеагульнай дэкларацыі правоў чалавека. Вынікі яго былі падведзеныя ў Прадстаўніцтве ААН у Беларусі. Было названа 12 пераможцаў, як ні дзіўна, пераважна з глыбінкі. Двое з іх — Дзіма Гурневіч са Стаўбцоўскага раёну і Саша Занько з Клецку — паедуць у Жэневу, у Цэнтр па правах чалавека.**

**Пераможцы, прызы, статыстыка — верагодна, гэта таксама цікава. Мяне, праўда, больш цікавіць зьмест акцыі, яшчэ больш — зьмест конкурсных работ. Некаторыя сачыненьні — усяго іх было каля 70 — ветліва прадаставіў Валерый Грыцук, адзін з кіраўнікоў і заснавальнікаў «Адукацыйнага Цэнтру «Правы чалавека», увогуле ідэйны натхняльнік гэтага ва ўсіх адносінах адметнага конкурсу.**

**Я падаю вытрымкі з некаторых работ юных канкурсантаў. А вы — рабіце высновы.**

«... Я вучуся ў 11 класе сярэдняй школы №2, цікаўлюся сучасным становішчам у краіне, вышэй за ўсё стаўлю розум, павагу, любоў да бліжняга — вось мая кароткая характарыстыка-біяграфія... Разумею, што разглядаць дадзеныя вамі пытаньні — гэта значыць выказваць свой погляд на палітычную сітуацыю ў краіне. Жадаю сабе пісаць чыстасардэчна...»

*(Алена Пронская, г.Масты)*

«... Напісаць мяне прымусіла становішча, у якім сёньня апынулася нашая Беларусь. Свае погляды і магчымае выйсьце з гэтай сітуацыі я прапаную на ваш суд у гэтым сачыненьні. Я люблю Беларусь, але ня маю магчымасьці штонебудзь зрабіць для яе. Але хутка прыйдзе час моладзі...»

*(Зьміцер Гурневіч, в.Налібокі, Стаўбцоўскі раён)*

«... Я — беларуска. Мне 15 гадоў, у гэтым годзе я скончу сярэднюю школу ў г.Еўпаторыі, што ў Крыме. Тут мой бацька-вайсковец знаходзіўся на службе. Усе мае родныя, апрача бацькоў, жывуць у Беларусі. У хуткім часе і я мару зьвязаць сваё жыцьцё з радзімай маіх бацькоў. Ведаю, што трэба будзе вырашаць шмат праблем, але я яшчэ не вывучала беларускую мову. Прашу дапусьціць мяне да ўдзелу ў конкурсе...

... Дзяржаву, дзе не яна мае прыярытэт перад асобаю, а асоба, яе правы — перад дзяржавай, трэба яшчэ пабудаваць...»

*(Алена Кірыльчык, г.Еўпаторыя)*

«... Дапусьцім, нейкая дзяржава працьвітае, але правы чалавека там не ахоўваюцца. Дый навошта ? Дзяржава моцна стаіць на нагах. Але рана ці позна народ паўстане, і войска тут не дапаможа. Што атрымаем? Дзяржаве будуць нанесены непапраўныя страты, пацерпяць помнікі культуры і архітэктуры і г. д. Можа быць, я згусьціў фарбы, але сам думаю, што трэба ўяўляць вынікі палітыкі, якая можа прывесьці да гэтага.»

*(Аляксандр Занько, г.Клецк)*

«... Каб адказаць на пытаньні, мне давялося ўзяць у бібліятэцы тэкст Дэкларацыі і ўважліва ўчытацца ва ўсе артыкулы. Я прыйшоў да высновы, што гэта вельмі важны дакумент для кожнага чалавека. Кожны чалавек, і просты рабочы, і высокапастаўлены чыноўнік, і школьнік у любой краіне павінен ведаць аб ім, а пры неабходнасьці — выкарыстоўваць яго артыкулы для абароны сваіх правоў...»

*(Юры Аляшкевіч, г.Мінск)*

«... Нашае жыцьцё, якое звычайна называюць цяжкім, ставіць перад намі — грамадзянамі Рэспублікі Беларусь — вострае і злабадзённае пытаньне правоў чалавека. Важнасьць гэтага пытаньня цывілізаваныя краіны даўно зразумелі. Мне самому не падабаецца гэтае дзяленьне краін на цывілізаваныя і нецывілізаваныя. З гэтай нагоды ўзьнікае пытаньне: Беларусь — краіна другога гатунку?...

... Дык што ж такое правы чалавека? У агульных рысах — гэта правы, уласьцівыя чалавеку ад самага нараджэньня, іншымі словамі, гэта тое ж самае, што і паветра, і сьвятло, і ўсьмешка маці. Гэта неад'емная частка нашага паўсядзённага жыцьця...»

*(Антон Прыдатка, г.Хойнікі)*

«... Я ведаю, што ў Мінску забараняюць мітынгі і пікеты апазіцыі, з Беларусі высылаюць журналістаў, выключаюць студэнтаў з ВНУ. Гэта гаворыць пра тое, што артыкулы Дэкларацыі часта не выконваюцца. Я думаю, маё пакаленьне ўсё раставіць па сваіх месцах. У Беларусі шмат людзей 40-х, 50-х, 60-х гадоў, ім такое жыцьцё падабаецца, а мне - не!

... Я люблю сваю Радзіму, свой лясны прыдзьвінскі край, люблю Беларусь, але хачу адзначыць, што дарослыя людзі нашай вёскі Запольле, мае бацькі, суседзі зусім ня ведаюць сваіх правоў. Яны працуюць на зямлі, фермах, і Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека для іх нешта вельмі далёкае. Я разумею, што яны хадзілі ў школу ў іншы час, калі гаварыць пра правы чалавека было нават забаронена, і няма іх віны ў тым, віна ляжыць на дзяржаве і людзях, якія ёй кіравалі, якім было выгадна не казаць людзям пра іх правы і свабоды. Дэкларацыя была надрукаваная ў СССР толькі ў 1988 годзе...»

*(Люда Максіменка, в.Запольле, Віцебскага раёну)*

### Некалькі слоў ад аўтара

Спачатку мне хацелася ўстрымацца ад каментара. Бо, нібыта, усё ясна і без яго. Але зьведзеныя ў адзін тэкст гэтыя вытрымкі прымусілі задумацца. І вось аб чым.

Гэтыя дзеці як лічаць, так і пішуць. Для іх гэта сур'ёзна, як бывае сур'ёзна ў іх узросце ўсё. Гэта, калі хочаце, іх ідэалы. У бацькоў быў ідэалам Сталін, а ў іх — Усеагульная дэкларацыя правоў чалавека. І яны ўступяць у жыцьцё з гэтым ідэалам, будуць набіваць гузы, ламаць шыі і жыцьцё — абавязкова будуць. Аднак паставіць сябе ў стойла — не дадуць.

Другое — і яшчэ больш важнае. Вы заўважылі, што ў асяродзьдзі падлеткаў і моладзі гаварыць добра пра сёньняшнія ўлады — дурны тон? Добра гэта ці дрэнна ў агульным сэнсе — пытаньне ў дадзеным выпадку другаснае. Але вось настрой менавіта такі. Нігілістычны. Вы можаце ўявіць сабе падлетка, які кажа: добра, што бацьку (мяне, майго сябра) ні за што зьбіла міліцыя, бо ён нёс няправільны сьцяг? Я таксама не магу...

**Сяргей ШАЎЦОЎ**

Андрэй МЕЛЬНІКАЎ

# Вандроўка за краты



Атрымліваю паперу на працяг сьледства. Праз месяц – зноў працяг. Чарадою пайшлі "пустыя тыдні", нікуды не цягаюць. Ідзе "работа са сьведкамі".

Знаходжу для сябе ў "хаце" пастаянны занятак. Раблюся галоўным па прадуктах і па газетах. З "дачак" складваю штодзённыя пайкі, кантралюю склад і падшыўку газетаў. Даводжу да ладу рыбу. Занятак знаходзіць сабе тут з цягам часу кожны. Мафіёзі добра гатуе смажаную бульбу з салам пры дапамозе кіпяцільніка. Мытнік – сьпец па чыфіру і каве. У забойцы В.увогуле "залатыя рукі" : ён ладзіць прылады для дарогі, попельніцы. Гуляем у шашкі, шахматы (разрад на трэці, пэўна, цягнем), "куточкі", "мандавошку". У апошнюю гульню — на адцісканьні альбо прысяданьні — на выбар. Мытнік не гуляе ні ўва што. Чытаем. На дзіва лёгка сталі рашацца розныя газетныя задачкі. Інтэлект расьце? Ж. часам падкідвае "Moskow News" – паволі, але згадваю англійскую мову, якую калісь вучыў.

Абодва забойцы з нашай "хаты" жанатыя. У абодвух – малыя дачушкі. Дачушцы В. было два тыдні, калі яго ўзялі. Успамінаючы пра малую, В. сумуе: "Вярнуся – дарослая ўжо будзе. Нашто ёй тады такі бацька?! Скажа: ідзі на...".

У мафіёзі – трое дзетак. Старэйшы, васьмігадовы, хворы на эпілепсію. Бацька матляўся з ім па ўсёй дзяржаве і разнастайных народных лекарах, сам набыў у гэтай галіне багатыя веды. Кажа: у медыцыне тэрмін зьявіўся: "тэлевізійныя эпілептыкі" – дзеці-тэлеаматары, з-за таго і захварэўшыя. Досыць распаўсюджаная зьява.

На чарговай "сьвіданцы" жонка прыносіць мафіёзі навіну: іх склеп у доме на ахоўваемай тэрыторыі пагранатраду ў Белавежскай пушчы "невядомыя" цалкам "вычысьцілі" ад усіх саленьняў ды сочываў – ля сотні слоікаў. Дзіўныя людзі – пагранцы! Сваё пад носам не зьбераглі, а туды ж — дзяржаву ахоўваюць...

Напачатку зімы ўсю "хату" перасяляюць на першы паверх – у "адзінноль". Камфорту тут меней – "дальняк" не агарожаны і электрычнасьць толькі ў "час пік", але патроху адаптоўваемся. Затое адсюль добра бачны гадзіньнік на вежы Фарнага Касьцёлу і анёлы на яго вежах. Ня раз, гледзячы на іх з "гулачных" дворыкаў, я ўзгадваў Шалкевічава: "І дождж наклікалі анёлы... У Гародні дождж".

Турэмнае радыё, што гучыць на ўвесь калідор, ведае некалькі "хітоў", якія ад штодзённага пракручваньня робяцца абрыдлымі: "Важней всего погода в доме", "Забери меня с собой" — з самага лета, "Красивая любовь. Мы отдали ей дань безумства" – з кастрычніка, "Ветка сирени", "Девочка-виденье", "Кукла Маша, кукла Даша" – з лістапада. Калі ня круцяць гэтыя хіты і няма паверак – трансьлюецца беларускае Радыё-1. Яшчэ на пачатку адсідкі чую Шалкевічава: "Верасень – слотная пара...", у самай сярэдзіне, з раніцы, — некалькі песень Вольгі Цярэшчанкі, пад канец – Алеся Камоцкага і Касю.

Калі ў канцы лістапада ў "хаце" адрамантоўваюць радыёкропку, незадаволены гэтым толькі мытнік. Ды ён – у меншасьці. Для яго – гэта "самае ідыёцкае радыё сьвету", для нас – хоць нейкі голас з волі. Хоць з якой там волі...

Зянон, беларус з Віленшчыны, зьяўляецца ў "хаце" у сярэдзіне сьнежня – вусаты-валасаты мужык на мыліцах, рука і нага загіпсаваныя.

Сьледства па ягонай справе скончылася яшчэ да таго, як Зянона ўзялі. А абвінавачваюць яго ў крадзяжы салетры з калгаснага складу. Далей за ўласныя двары вынесьці не пасьпелі. Кампаньён падказаў мянтам. Зянон сыйшоў з хаты, некалькі месяцаў яго не маглі злавіць, і не злавілі б, каб не гэтыя пераломы.

Зянон – грамадзянін Летувы. Падчас падзей 90-91 гадоў заняў на Антокалі двухпакаёўку (былі тады такія, што кідалі свае віленскія кватэры і зьяжджалі на рускамоўныя тэрыторыі). У той кватэры і зараз жыве Зянонава жонка. Ды з жонкай ён пасварыўся – перабраўся ў бацькоўскую хату ў Ашмянскім раёне.

Зянон – "афганец". Пасьля – сядзеў у Літоўскай ССР за "хуліганку", у тым ліку – у знакамітых "Лукішках". "Лукішкі", з ягоных словаў, – турма тысячы на тры насельніцтва. Адным з любімейшых метадаў выхаваньня зэкаў у тамтэйшых мянтоў быў не "дубінал", як тут, а драўляны малаток – той самы, якім прастукваюць "шконкі". Зянон шматразова парушаў рэжым "Лукішак", за што яго і выхоўвалі малатком. Пасьля, на "зоне", Зянон паступова займеў "свой бізьнес" і на "сьвіданках" перадаваў сям'і грошы. Па законах РБ судзімасьць у Зянона першая і ў перспектыве "сьвеціць" "абшчаком".

Двойчы ў Зянона праяўляецца хвароба, з-за якой ён і трапіў за краты – Зянон губляе прытомнасьць. Прыходзіць у норму менш за паўхвіліны, але гэтага дастаткова, каб яшчэ што зламаць, таму штораз пасьпяваем яго падстрахоўваць.

Зянон размаўляе на трасянцы хутчэй на беларуска-рускай, чым наадварот. Абсалютна з-за гэтага не камплексуе, ведае мноства беларускіх прымавак ды показак, вершыкаў.

Прайграючы спачатку мне ў шашкі, Зянон у хуткім часе пачынае выйграваць у мяне ў суадносінах прыкладна 4 да 1. А я лічыў сябе чэмпіёнам.

Зянон становіцца стымулам таго, што я пачынаю зноў сьпяваць. Нечакана заўважаю, што пад "Казку" хутка засынае палова "хаты"!

Характарыстыка з месца жыхарства на Зянона прыходзідь адмоўная. Гэта не дае надзеі на станоўчы вынік яго суда. А на суд мы паедзем у адзін бок і, спадзяемся, адным этапам. На Астравец – Смаргонь – Ашмяны едзе аўтазэк па панядзелках.

Аднак, зноў дарэмныя спадзяваньні: Зянона "выдзёргваюць" на тыдзень раней за мяне.

У сьнежні даводзіцца перажыць яшчэ адзін капітальны "шмон" "хаты" у маё дзяжурства. На гэты раз без істотных канфіскацый.

Напярэдадні Новага году раблю з пайкі белага хлеба крыжык, фарбую яго зубной пастай і замацоўваю над рэшкай. Пад ім мы сустракаем чыфам 1998-ы год. Мянты не чапаюць крыжык і пасьля.

У першыя дні 98-га Ж. двойчы падкідвае ў хату "Народную волю". Ня думаў, што і гэтая газета ідзе на турму. Там ёсьць каляндар на год – ня трэба мне яго рабіць (усе "каляндарныя справы" уваходзяць у маю "кампетэнцыю".

На праваслаўныя Каляды мытніку перадалі яловую галінку і "Біблію", выдадзеную пратэстанцкім цэнтрам. Сапраўды, сьвятло ідзе ў нашую "хату", дзе ўжываюцца хрысьціяне трох канфесій і елка – даўні сімвал масонства.

*(Працяг будзе)*

---

*Працяг.*
*Пачатак у №№ 17-27.*

Права на волю. Бюлетэнь Праваабарончага Цэнтру "Вясна-96". Выходзіць два разы на месяц на беларускай, ангельскай і рускай мовах. Наклад 299 асобнікаў. Адрас рэдакцыі: 220007 Менск, а/с 88. E-mail:rights@v96.open.by Рэдактар Алесь БЯЛЯЦКІ.
Пры перадруку спасылка на бюлетэнь абавязковая.

У нумары скарыстаныя малюнкі А. Карпавіча і фотаздымкі з архіву Цэнтра "Вясна-96"